# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 3 (260) | ГОД VI | БЕЛАСТОК, 19 ЛЮТАГА 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


## 26 ЛЮТАГА ПЛЕНУМ ГП БГКТ

У сувязі з пятай гадавінай дзейнасці Беларускага грамадска - культурнага таварыства і «Нівы», 26 лютага, у дзень заснавання Таварыства адбудзецца ўрачыстае пленарнае пасяджэнне Галоўнага праўлення БГКТ, на якім падвядзецца вынікі дагэтуляшняй працы. Пленум адбудзецца ў памяшканні ГП БГКТ.





...ПУШЧА ЗАПРАШАЕ

...ПУШЧА ВАБІЦЬ

...ПУШЧА ЖЫВЕ

## НОВЫЯ ГУРТКІ І САМАДЗЕЙНЫЯ КАЛЕКТЫВЫ НА САКОЛЬШЧЫНЕ

КНЫШЭВІЧЫ. Нядаўна ў памяшканні тутэйшай школы адбыўся сход моладзі. На гэтым сходзе шырока абмяркоўвалася справа культурнага жыцця на вёсцы. Удзельнікі сходу вырашылі заснаваць гурток БГКТ. У гурток уступіла 23 асобы. Яго старшынёю выбрана настаўніцу Таню Юрылік, сакратаром Янку Аляшэвіча, а скарбнікам Янку Змітрука. Гэта ўсё маладыя, поўныя найлепшых намераў людзі, якія хочуць узняць на вышэйшы ўзровень культурнае жыццё свайго асяроддзя. І сапраўды, з гэтага дня моладзь вёскі пачала жыць зусім інакш, па-новаму. Адразу на другі дзень пад кіраўніцтвам старшыні гуртка БГКТ Т. Юрылік моладзь сабралася і абмяркоўвала беларускія п'есы. Вырашана развучыць дзве п'есы: «Суд» і «Мараль Наталіі Дзотавай».

Кнышэвіцкая моладзь энергічна прыступіла да развучвання п'ес і плануе выступіць з імі не толькі ў сваёй роднай мясцовасці, але таксама і ў суседніх вёсках. Трэба адзначыць, што вялікай дапамогай у працы Т. Юрылік з'яўляецца трохтыднёвы тэатральна - мастацкі семінар, які яна закончыла ў жніўні мінулага года ў Супраслі. Варта падкрэсліць, што самадзейнікам у Кнышэвічах выдатна памагае кіраўнік мясцовай пачатковай школы Янка Колнаўс.

*

СЛОЯ. Гэтая вёска такая ж, як дзесяткі другіх. Тут шмат моладзі, якая з ахвотаю горнецца да культурнага жыцця. У Слоі, аднак, дзеля яго разгортвання няма спрыяльных умоў. Тут няма школы, ані святліцы, дзе можна было б праводзіць культурныя заняткі. Аднак аматары мастацкай працы знайшлі выхад з гэтага становішча. Вось нядаўна яны сабраліся ў хаце Людмілы Мічэйко. Тут горача абмяркоўвалі справу заснавання гуртка БГКТ. У новы гурток запісалася 24 асобы, а ў склад праўлення ўвайшлі наступныя асобы: Мікалай Прымак — старшыня, Людміла Фідзюкевіч — сакратар і Людміла Мічэйко — скарбнік.

Нягледзячы на неспрыяльныя жыллёвыя ўмовы, гурток БГКТ з першых дзён свайго існавання энергічна прыступіў да дзейнасці. Моладзь развучвае дзве п'есы. «Прымакі» і «Дзесяць гектараў». Зараз адбываюцца ўжо апошнія пробы і неўзабаве маладыя артысты - самадзейнікі выступяць на сцэне. Адзначым, што ўсе рэпетыцыі праходзяцца ў прыватным памяшканні члена БГКТ і скарбніка гуртка Людмілы Мічэйко. Сюды таксама на рэпетыцыі часта прыязджае з суседняй вёскі Суковічы Яша Курпэль, пад вопытным вокам якога адбываюцца пробы. а таксама вывучаюцца песні і танцы. Хочацца асабліва падкрэсліць вялікі ўклад у мастацкую працу гуртка яго старшыні Мікалая Прымака і скарбніка Людмілы Мічэйко.

Добра было б, каб другія праўленні гурткоў БГКТ бралі прыклад з працы гуртка ў Слоі, а тады б напэўна выдатна ажывілася культурнае жыццё на нашых вёсках. •

Янка



## ПРАГУЛКА ПА ПУШЧЫ

Для Белавежскай пушчы не існуюць пары года, якія маглі б нейкім чынам зменшыць яе прывабнасць. Яна заўсёды цудоўная! Але лепш няхай за нас гавораць здымкі нашага фотакарэспандэнта Міколы Тарасевіча, які сябруе з Пушчай нават зімою, калі здавалася б няма ў ёй нічога цікавага.

(Працяг на стар. 3)



# ПРАГУЛКА ПА ПУШЧЫ



(Працяг са стар. 1)

...ПУШЧА ЎСПАМІНАЕ.

...ПУШЧА НАТХНЯЕ

...ПУШЧА ІНТРЫГУЕ.

Кох выдаў загад аб ліквідацыі партызан у раёне Роўна. Перавозячы Кузняцову важны пакет, гіне Коля Прыходзька. Кузняцоў адпомсціў смерць сябра разгромам варожай засады. У навакольных раёнах з'явіліся карнікі. Партызанцкі штаб сцягвае сваіх людзей у лагер.




## ЛЕПШ ПАМЕРЦІ АД КУЛІ

Тымчасам Кастусь Доўгер, атрымаўшы заданне, накіраваўся ў Сарны, каб адтуль цягніком выехаць у Роўна. Яго спадарожнікамі былі двое партызан — Пятроўскі і Петчак.

Па дарозе іх затрымала група ўзброеных людзей. Адзін з гэтай групы, відавочна старшы, загадаў абшукаць усіх траіх. У іх забралі грошы і дакументы — больш нічога не знашлі.

— У штаб! — загадаў старшы.

Іх прывялі ў адзінокі домік на ўскраіне вёскі, на беразе ракі Случ. Навокал доміка кружыліся такія ж узброеныя людзі. Дзядзька Кастусь прыкмеціў у іх на шапках трызубы і тут толькі канчаткова зразумеў, з кім мае справу.

Канваіры даставілі затрыманых да бандыта, які, мяркуючы па рэгаліях, быў галоўным.

Бандыт крыкнуў канваіру:

— Прышлі хлопцаў!

«Хлопцы» ўжо чакалі сігнала і па камандзе накінуліся на партызан. Калючым дротам звязалі ім рукі за спіною, затым разулі. Пятроўскага і Доўгера адвялі ў клуню. Петчака пакінулі для допыту.

Допыт цягнуўся да тых пор, пакуль Петчак не павaліўся без прытомнасці, сколаты іголкамі і гваздзямі, параненым сцызорыкам, пабіты шомпаламі. Яму задавалі адно і тое ж пытанне:

— Куды і чаго ідзеш?

Петчак маўчаў.

Яго аблілі халоднай вадою, зноў узяліся дапытваць і не атрымаўшы адказа, пачалі біць нагамі. У непрытомным стане яго ўвапхнулі ў клуню да Пятроўскага. На допыт узялі Доўгера.

Таксама, як Петчак, дзядзька Кастусь ні слова не сказаў сваім мучыцелям. Яго паддалі такім жа самым бесчалавечным допытам і непрытомнага прынеслі і кінулі ў клуню.

— Ты ўкраінец? — звярнуўся фашыст да Пятроўскага, калі яго прывялі на допыт.

— Так, украінец.

— Дык раскажы нам, куды ты ішоў з гэтым ляхам і беларусам?

— Я ішоў у Сарны.

— Чаго?

— Па сваіх справах.

— Гумовая дубінка апусцілася на галаву Пятроўскага.

— Будзеш гаварыць?

— А я гавару. — сказаў партызан, калі ачуняў.

— Ты атрымаў заданне ад савецкіх партызан?

— Не.

— Хлусіш!

— Яго пачалі біць шомпаламі. Білі да тых пор, пакуль ён мог стаяць на нагах. Калі ён зваліўся, бандыты працягвалі біць нагамі. Нарэшце і яго кінулі ў клуню...

Быў пачатак сакавіка і партызаны карчанелі ад холаду. Шэптам, каб не пачулі вартаўнікі, дзядзька Кастусь сказаў таварышам:

— Калі каму - небудзь з вас удасца вырвацца — зайдзіце да маіх, перадайце прывітанне. Дачка няхай ідзе ў атрад...

Перад світаннем у клуню ўвайшлі пяцера малайцоў. Ударамі ног паднялі палонных і пацягнулі іх звязаных да ракі.

— Стой! — загадаў адзін з бандытаў, калі падышлі да берагу.

Рака была скавана тоўстым слоем ільду, на якім чарнела пролубь. Трое схапілі дзядзьку Кастуся.

— Бывайце, таварышы! — крыкнуў ён.

Пятроўскі і Петчак бачылі, як валіліся бандыты, запіхаючы пад лёд сваю ахвяру.



Кастусь Доўгер

— Лепш памерці ад кулі! — закрычаў Пятроўскі і кінуўся ў бок. За ім скочыў Петчак.

Па іх адкрылі агонь. Петчак упаў, не паспеўшы зрабіць і некалькі крокаў. Пятроўскі працягваў бегчы. І кулі міналі яго.

Праз тры гадзіны ён дабраўся да лагера. Да вечара банда, якая ўчыніла над нашымі таварышамі жорсткую расправу, была цалкам знішчана.

— З-пад ільду мы выцягнулі цела дзядзькі Кастуся. Пахавалі яго з партызанцкім гонарам.

## ЗА ШТО Ж, ТАВАРЫШ, МЯНЕ НЕНАВІДЗІШ?

— Вы выклікалі з Роўна Кузняцова? — спытаў мяне Лукін, калі я вярнуўся са ўзвода, у якім праводзіў гутарку з таварышамі.

— Не, а што?

— Ён толькі што прыехаў.

— Дзе ён?

— Зараз зойдзе, пайшоў умывацца. З ім нешта дрэннае...

(Працяг на стар. 4)

Фальклор Беласточчыны

## ПЕСНЯ

Ой ішоў я малады
Чараз тыя ямы,
Не папаў я да дзяўчыны
Да й яе мамы.

Ой кажут яны мне
Ды на лаві сесці.
Наварылі мундзерыкаў,
Кажут жа мне есці.

Я на тыя мундзерык
Скрыва паглядаю.
Стаят гаршчкі на паліцы,
Я іх паскідаю.

Ой ішоў я малады
Чараз тры гароды,
Зачапіўся ў гарбузень
Нарабіў я шкоды.

Маладыя дзяўчанята
Канопалькі рвалі,
Яны мяне маладога
У каноплі схавалі.

Ой я вышаў з канапель,
Сеў я на грудочку,
Адна нясе паштанікі,
Другая сарочку.

Каторая паштанікі,
Тая людзям будзе.
Каторая сарочаньку,
Тая мая будзе.

Запісаў Уладзімір Красоўскі з [illegible] (Беластоцкі павет) ад бабулі Яўгеніі Красоўскай (75 год)

# КРЫВІ



Многа год працуе дырэктарам Беластоцкай стацыі крвёдаўства др. Генрык Ражкоўскі — заслужаны арганізатар і папулярызатар акцыі крвёдаўства на Беласточчыне.



Гэтыя «катлы» называюцца аўтоклавамі. У іх пры дапамозе высокай тэмпературы і пад ціскам стэрылізуецца (ачышчаецца ад бактэрый) вадкасць, з якой змяшаецца кроў. Выясняем, што кроў без змяшання яе з кансервуючай вадкасцю застыла б і была б непрыгодная ў медыцыне.



Кроў — бясцэнны лек, грозны вораг смерці. З крыві атрымліваем многа паходных лекаў, перш за ўсё плязму, неабходную пры лячэнні дзіцячых хвароб, напрыклад, так частых дзіцячых бягунак.



Францішак Кучынскі — стражак па прафесіі. Ратуе людзей падвойна: рызыкуючы жыццём — ад агню і сваёй кроўю — ад смерці.

— Я чалавек, — адказаў на нашае пытанне — чаму аддае кроў, — і з людскога абавязку перад другім чалавекам павінен памагаць яму, чым магу».

Больш бы такіх!



Кропля за кропляй у жылу хворага сплывае жыццедайная кроў, несучы яму ратунак.



Выдэзінфікаваную руку працягваецца праз дзірку ў г. зв. «бокс», дзе сцягваецца ад даўцы кроў. Бокс — гэта пакой, у якім няма бактэрый. Сястра ўваходзіць туды ў спецыяльнай яловай вопратцы.



Усё рабілася старанна і чыста, але... прыдатнасць кансервату ўсё ж такі трэба спраўдзіць яшчэ на трусіку. Укол трус атрымлівае ў жылку на вушку. Пры трусіку мілая апякунка 22 трусоў, якіх гадуе спецыяльна для вопытаў.

## ПЕРШЫ РАЗ У ВЁСЦЫ

Ужо агульнавядомым з'яўляецца інструментальны гурток з вёскі Шчыты (Бельскі павет), якім кіруе Міраслаў Кадзевіч. Гэты гурток заняў першае месца на цэнтральным аглядзе беларускіх мастацкіх калектываў у Беластоку.

29 студзеня г. г. у школьным памяшканні ў вёсцы Пасынкі (Бельскі пав.) вельмі ўдала выступіў інструментальны гурток з Шчытоў. Праграма гуртка была добра падрыхтавана. Бурнымі воплескамі гледачы сустракалі кожны яе нумар. Было тут удоваль жартаў і смеху. Усім спадабаліся польскія і беларускія народныя песні, якія па-майстэрску выконвалі самадзейныя артысты. Пасля выступленняў адбылася танцавальная вечарына для шчытаўскіх самадзейнікаў і моладзі з Пасынак. Сярод прысутных знаходзілася шмат старэйшых грамадзян. Гэта было першае выступленне беларускага гуртка ў нашай вёсцы. Здаецца выкажу думку ўсіх гледачоў, калі скажу, што нам хацелася б усім яшчэ раз сустрэцца з калектывам інструментальнага гуртка з вёскі Шчыты.

Запрашаем Вас, дарагія сябры, у Пасынкі!

**Уладзімір Весялоўскі**

Пасынкі

# У СОТУЮ ГАДАВІНУ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ КАРСКАГА

У сувязі з гадавінай Я. Ф. Карскага навуковы калектыў Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага Універсітэта наладзіў 20 студзеня г.г. у сваёй лекцыйнай зале ўрачыстае пасяджэнне, прысвечанае памяці славутага вучонага заснавальніка беларускага мовазнаўства і філалогіі, Я. Ф. Карскага. У пасяджэнні прынялі ўдзел студэнты ўсіх курсаў беларускай філалогіі, навуковыя працаўнікі кафедры і запрошаныя госці.

Прафесар Антаніна Яблонская, кіраўнік Кафедры беларускай філалогіі, выступіла з цікавым дакладам аб жыцці і навуковай працы Я. Ф. Карскага. Яна звярнула асаблівую ўвагу на цесную сувязь Карскага з Варшаўскім Універсітэтам, дзе працаваў вучоны выкладчыкам, пачынаючы ад 1893 года, дзе бараніў навуковыя працы і атрымоўваў вучоныя ступені і дзе ў 1915 годзе здабыў найвышэйшую пасаду — рэктара Варшаўскага Універсітэта.

«Успамінаем сёння навуковыя заслугі Карскага ў горадзе, у якім распачаў сваё служэнне беларускай навуцы. Успамінаем у змененых для новай Варшавы і нашай краіны абставінах. Карскі хіба не прадбачваў, так як многія з нас, што ў той жа Варшаве, на польскім Варшаўскім Універсітэце ажыве навуковая і даследчая праца, прысвечаная праблематыцы мовы і культуры братняга беларускага народа», — сказала на заканчэнне свайго даклада праф. Яблонская.

З другім дакладам, прысвечаным дыялекталагічнай працы Карскага, выступіў ад'юнкт мгр Станіслаў Глінка. Найбольш месца ў сваім дакладзе прысвяціў ён падарожжам Карскага па Беласточчыне, дзе вучоны даследваў мясцовыя беларускія дыялекты. Карскі пабываў у вёсках Жукі і Сухаволе на Сакольшчыне, у Гарадку і Харошчы ў Беластоцкім павеце, у Белавежы на Гайнаўшчыне і ў многіх іншых мясцовасцях.

Пасля дакладаў прысутныя пазнаёміліся з багатай выстаўкай многіх — з каля трохсот напісаных выдатным вучоным — прац у галіне славянскага мовазнаўства, літаратуразнаўства, палеаграфіі і этнаграфіі. Некаторыя бясцэнныя творы з выстаўкі, выдадзеныя ў Варшаве, маюць уласнаручныя дэдыкацыі іх вялікага аўтара Варшаўскаму Універсітэту.

---

# АБ ПАДРУЧНІКАХ ПА БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ

У час канферэнцыі і ў прыватных гутарках з настаўнікамі хвалюючай з'яўляецца справа падручнікаў. Яны пытаюцца, што робіцца школьнымі ўладамі дзеля папаўнення недахопу ці змены неактуальных падручнікаў па беларускай мове. На аснове вестак з Міністэрства асветы справа падручнікаў выглядае наступна:

1. Кніжка да чытання ў 1 кл., выдадзена ў 1958 г., знаходзіцца ў кніжных магазінах Беластоцкага ваяводства ў дастатковай колькасці экземпляраў.

2. Хрэстаматыя для II кл. поўнасцю прададзена. Новая хрэстаматыя ўжо апрацавана і перад будучым школьным годам будзе ў продажу.

3. Хрэстаматыі для III кл. зараз няма ў продажу. Апрацоўвалася новая хрэстаматыя, але яна не была зацверджана да ўжытку Міністэрствам асветы. Новы падручнік хрэстаматыі будзе аддадзены ў карыстанне ў 1962/63 школьным годзе.

На 1961/62 школьны год апрацуюцца дапаможныя матэрыялы, якія будуць выдадзены ў форме дзьвюх брашур. Змяшчацца ў іх будуць адпаведныя чытанкі і выбар з паэзіі для III класа.

4. Старыя хрэстаматыі для IV кл. можна набываць у кніжных магазінах. Маецца іх каля 400 экземпляраў. Падрыхтавана і зацверджана да друку новая хрэстаматыя для IV кл., якая будзе аддана ў карыстанне ў 1961/62 школьным годзе.

5. Хрэстаматыі для V кл. застануцца пакуль што старыя і іх поўнасцю хапае ў продажу.

6. Хрэстаматый для VI кл. у продажу налічваецца зараз каля 200 экземпляраў. Падрыхтавана да друку новая хрэстаматыя на 1961/62 школьны год.

7. Хрэстаматый для VII кл. у продажу маецца дастатковую колькасць.

Палажэнне з падручнікамі па граматыцы зараз на многа лепшае. Не так даўно атрыманы з БССР вельмі ўжо патрэбныя ў нас падручнікі: I частка, па фанетыцы і марфалогіі для V кл. і на першае паўгоддзе VI кл. у колькасці 1500 экземпляраў і падручнік па сінтаксісу на другое паўгоддзе для VI і VII класаў у колькасці 800 экземпляраў.

Куратарыум Беластоцкай школьнай акругі зрабіла таксама заказ у БССР на падручнікі па граматыцы для класаў ад I да V.

Настаўнікі беларускай мовы, перш за ўсё ў малодшых класах, шмат наракаюць на недахоп наглядных дапаможнікаў пры навучанні. Зразумела, што, напрыклад, рухомыя літары азбукі, арфаграфічныя табелі, графічныя ўлажэнні простых і складаных сказаў і г. д. з'яўляюцца надзейным залогам эфектыўнасці навучання. Беручы гэтае пад увагу, Куратарыум заказала ў Мінску 175 камплектаў наглядных дапаможнікаў.

**М. Кураш**

